БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

*11 студзеня 1994 г.*
*Аўторак*
*№ 3(13719)*
Кошт у розніцу 20 рублёў
Выдаецца з 1921 года

*Малюе Віктар ДУБОВІК*




*На цудоўнай лепельскай зямлі людзі ўмеюць добра працаваць, а калі надыходзіць свята, і адпачываць. І ў гэты раз Лепельшчына, як і ўся рэспубліка, святкавала Нараджэнне Хрыстова. Шматгадовыя традыцыі мясцовых людзей умела захоўваюць і падтрымліваюць тут.*

*Здаўна ў вёсках раёна Каляды суправаджаліся традыцыйнай гульнёй "Жаніцьба Цярэшкі".*

**(Працяг фотарэпартажу на 2-й стар.)**



## *Кур'ер "ЧЗ"*

### СТОП-ФАКТ

## Рублёвая зона: за і супраць

***21—22 студзеня 1994 г. у мінскай канферэнц-зале Белінтурыста (пр.Машэрава, 19) адбудзецца міжнародная навукова-практычная канферэнцыя на тэму "Праблемы стабілізацыі фінансава-крэдытнай сістэмы ў посткамуністычных дзяржавах".***

На канферэнцыі плануецца абмеркаваць практычны вопыт прыбалтыйскіх і іншых краін былога СССР, якія дасягнулі найбольшых поспехаў пры ўвядзенні і стабілізацыі нацыянальных валют, перспектывы Беларусі ў гэтым напрамку. На канферэнцыю запрошаны вядомыя беларускія навукоўцы і эксперты фінансава-крэдытнай сістэмы, кіраўніцтва Нацбанка Беларусі, а таксама зацікаўленыя дэпутаты парламента Беларусі, кіраўніцтва камерцыйных банкаў і фінансавых кампаній рэспублікі, прадстаўнікі цэнтральных банкаў Эстоніі, Латвіі, Літвы, Казахстана, Украіны, Малдовы, кіраўніцтва "Мосбізнесбанка", "Прамбудбанка Расійскай Федэрацыі", члены і эксперты Хрысціянска-дэмакратычнай фракцыі Еўрапарламента.

Арганізатарамі гэтай канферэнцыі выступілі Беларускі народны фронт "Адраджэньне" і Фонд Сораса-Беларусь.

Андрэй ВАШКЕВІЧ.



4—5 студзеня адбыўся візіт у Маскву ўрадавай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на чале са Старшынёй Савета Міністраў Вячаславам Кебічам.

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ.

## Грошы — не чуткі

***Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН памочнік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі дарадца Валерый Дашкевіч, аб'яднання грашовых сістэм Расіі і Беларусі ў бліжэйшыя дні не адбудзецца.***

Напрыканцы студзеня ў Беларусь прыедзе расійская дэлегацыя, каб прадоўжыць перамовы па гэтым пытанні. Таму чуткі аб тым, што аб'яднанне грашовых сістэм адбудзецца ў бліжэйшыя дні, — неабгрунтаваны.

На пытанне, ці не будзе ўведзена з 1 лютага нацыянальная беларуская валюта, Валерый Дашкевіч адказаў: "Думаю, што гэтага не здарыцца". На яго думку, на сённяшні дзень прыярытэты — за аб'яднаннем грашовых сістэм Расіі і Беларусі.

## Пакуль без віз

***Увядзенне Літвой візавага рэжыму для грамадзян Беларусі, якія наведваюць гэту краіну, адкладзена да 1 сакавіка 1994 года. Пра гэта карэспандэнту БелаПАН паведамілі ў пасольстве Літвы ў Беларусі.***

На працягу студзеня 1994 года будуць праведзены двухбаковыя беларуска-літоўскія перамовы, на якіх пытанне ўвядзення Літвой візавага рэжыму будзе вырашана канчаткова.

## У госці праз... касу

***Мінскі аблвыканкам зацвердзіў часовае палажэнне "Аб рэгістрацыі прыбываючых у гарады і раёны Мінскай вобласці грамадзян, якія пастаянна пражываюць па-за межамі Рэспублікі Беларусь на тэрыторыі былога СССР ці якія не маюць сталага месца жыхарства".***

Адпаведна з гэтым дакументам, рэгістрацыі падлягаюць грамадзяне, якія прыбылі на тэрмін звыш 1 сутак у госці, на лячэнне, адпачынак, у камандзіроўку, а таксама для камерцыйнай і іншай дзейнасці. Рэгістрацыя праводзіцца па месцы пражывання — у гасцініцах, матэлях, інтэрнатах ці па прыватных адрасах. Прыбыўшым у вобласць на тэрмін да 45 сутак неабходна ўнесці плату ў памеры 10 працэнтаў мінімальнай заработнай платы за кожныя суткі знаходжання ў касы названых устаноў ці праз ашчадны банк.

Ад аплаты за рэгістрацыю вызваляюцца асобныя грамадзяне і групы, якія прыбываюць па запрашэнню для ўдзелу ў дабрачыннай, гастрольнай і навуковай дзейнасці, для аказання насельніцтву лячэбных паслуг. Выключэнне таксама складаюць транзітныя пасажыры, блізкія сваякі і дзеці ва ўзросце да 16 гадоў.

Органам унутраных спраў даецца права ажыццяўляць праверку выканання гэтага палажэння. Пры допушчэнні адміністрацыйнага ці крымінальнага правапарушэння рэгістрацыя ануліюецца, а прадаўжэнне тэрміну разглядаецца ў кожным канкрэтным выпадку.

БелаПАН.

## Фестываль сяброў

***5 студзеня ў Мінску адбылося адкрыццё фестывалю школьнікаў "Сяброўства".***

У клубе "Юнацтва" сабраліся арганізатары фестывалю і прадстаўнікі дэлегацый — вучні старэйшых класаў з Санкт-Пецярбурга, Рыгі, Віцебска, Мінска, Гомеля, Брэсцкай вобласці. Яны выступілі з расказамі-інфармацыямі пра свае гарады, а таксама з канцэртнымі нумарамі. Наперадзе — сустрэча школьных каманд клуба вясёлых і знаходлівых, дыскатэкі, цікавыя экскурсіі.

Упершыню фестываль школьнікаў адбыўся 10 год таму ў горадзе Тарту і да распаду СССР паўтараўся штогод. Сёлета ж правядзенне фестываляў узнавілася.

Алена КЛІМЕНКА, ЧЗ-інфарм.

## Калядны кашмар

***У калядную ноч незвычайнае здарэнне адбылося ў адным з прыватных катэджаў Паўночнага пасёлка Мінска.***

Грамадзянка В. заставалася ў хаце адна. Нібы ведаючы гэта, а 2-й гадзіне ў ейнае акно настойліва пагрукалі. Прачнуўшыся, яна засцераглася адчыняць. Тады грукат узмацніўся, зазвінела шкло і ў хату палезла нейкая жанчына ў адзенні Евы.

— Я іншапланецянка, я яшчэ не нарадзілася на гэтай зямлі.

Пацярпеўшая ўзняла лямант, але суседзі спалі моцна. Толькі бабулька П. з бліжэйшага дома абудзілася і дапамагла лямантаваць. На шчасце, гэты гоман пачулі ў праязджаўшай машыне ПМГ і парушальніцу спакою забралі да высвятлення асобы і медыцынскага агляду (па марозе ніхто ж здаровы ў купальніку не ходзіць).

Грамадзянцы В. давялося на рэшткі ночы зачыніць акно... падушкай і працягваць глядзець калядныя сны. Толькі ці не былі гэта суцэльныя кашмары?

Вітаўт МАРТЫНЕНКА, ЧЗ-інфарм.

## Дзядам пасля шасцідзесяці ўваход забаронены!

***Піць гарэлку, што па дзяржаўных цэнах, можна, аказваецца, толькі да шасцідзесяці гадоў.***

Прынамсі, так лічаць у Віцебску. Жыхар горада Я.І.Мацвееў меў неасцярожнасць дажыць да васьмідзесяці гадоў ды яшчэ захацеў, небарака, адсвяткаваць юбілей. Калі ж зайшоў у магазін па гарэлку, там яму растлумачылі, што льготы ў яго ўзросце не прадугледжаны. Гарэлку па дзяржцане можна набыць толькі да шасцідзесяцігоддзя. А зараз, маўляў, дзед, купляй камерцыйную. І чаму стары не запасся спіртным яшчэ дваццаць гадоў таму? Праўду кажуць, наперад кінеш — ззаду знойдзеш.

Уладзімір МІХНО, ЧЗ-інфарм.

**Курсы валют на 10 студзеня:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 4200 | 4450 | 2410 | 2555 |
| "Белбізнесбанк" | 4100 | 5000 | | |

### ПРАВІНЦЫЯЛЬНАЯ ХРОНІКА

## Эх, і пракоцімся... па слізкім тратуары

***У студзені новага года жыхары Асіповічаў набылі значна менш праязных білетаў на гарадскі транспарт, чым у мінулым месяцы. І не толькі з-за вялікага кошту.***

Прычынай таму — праца гарадскіх аўтобусаў. Дакладней, яе якасць. Нярэдка гарадскі транспарт з-за сваёй няспраўнасці не выходзіць на маршруты, спазняецца. А днём з 9 да 12 гадзін маршрутныя аўтобусы № 2 і 3, згодна з графікам руху, наогул прастойваюць на аўтобуснай станцыі. Кажуць, з-за эканоміі паліва.

Ну, а церпяць з-за гэтага пасажыры. Працоўным некаторых прадпрыемстваў прыходзіцца адмерваць па 6—7 кіламетраў пешшу. Ды яшчэ па слізкай дарозе...

Іван СЦЯПУРА.

## З'елі кіёскі "Саюздруку"

***У Докшыцах непамерныя падаткі, якія склалі аж восемдзесят працэнтаў ад даходу, жыўцом праглынулі раённае аддзяленне "Саюздрук".***

Як ні старалася тое гандляваць, нашпігаваўшы свае кіёскі рознаю камерцыйнаю драбязою, гэта іх не выратавала. Докшыцкі "Саюздрук" абанкруціўся, хоць і пералічыў у мясцовы банк пяць мільёнаў выручаных грошай. Цяпер яго кіёскі перададзены суседняму, Глыбоцкаму аддзяленню. Хто наступны?

Уладзімір МІХНО, ЧЗ-інфарм.

### ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

# БНФ бачыць перспектыву ў выбарах

☐ Ліля ГРЫНЯВЕЦКАЯ, ЧЗ-інфарм

*Візіт Прэзідэнта ЗША Біла Клінтана ў Мінск і нядаўняе падпісанне спікерам Шушкевічам Дагавора аб калектыўнай бяспецы ў рамках СНД сталіся прычынай наладжанай апазіцыяй Беларускага народнага фронту прэс-канферэнцыі.*

Дзве вышэйназваныя падзеі маюць занадта вялікае значэнне для Беларусі (асабліва апошняя), каб іх не пачалі каменціраваць розныя палітычныя сілы рэспублікі. Станіслаў Шушкевіч, які доўгі час рашуча выступаў супраць Дагавора аб калектыўнай бяспецы і нават пагражаў вынесці гэтае пытанне на рэферэндум, раптам змяніў прынцыпы і "падмахнуў" паперу, якая, паводле ягоных жа слоў, можа давесці да пасылкі беларускіх хлопцаў у Таджыкістан. Зянон Пазьняк растлумачыў журналістам спікерскую нелагічнасць, як жаданне пайсці на ўсё, каб уратавацца ад магчымай адстаўкі (нагадаем, што парламенцкая фракцыя "Беларусь" зноў мае намер паставіць пытанне аб адстаўцы Шушкевіча адразу ж пасля зімовых вакацый). Невядома, ці пахваліць спікера за такі ўчынак парламенцкая большасць і ці даруе яму былую ўпартасць у гэтым пытанні. БНФ, мяркуючы па ўсяму, дараваць свайму даўнейшаму стаўленіку здраду інтарэсам Беларусі" (так адазваўся З.Пазьняк пра падпісанне дагавора) не збіраецца.

На думку апазіцыі, сітуацыя на Беларусі значна пагоршылася апошнім часам. І звязана гэта не толькі з глыбокім, справакаваным, паводле слоў БНФ, бяздарнай дзейнасцю ўрада эканамічным крызісам, але і з замахам на палітычную незалежнасць беларускай дзяржавы.

З падпісаннем дагавора фактычна скасаванымі аказаліся прынцыпы бяз'ядзернасці і нейтральнасці Беларусі, закладзеныя ў нашай Канстытуцыі, лічыць апазіцыя. Больш за тое. Інтэрфакс распаўсюдзіў заяву прэм'ера Кебіча, у якой ён лічыць цалкам магчымым уступленне Беларусі ў НАТО, калі такі крок першай зробіць Расія. "Што ж гэта такое,— абураўся Зянон Пазьняк, —спачатку Дагавор аб калектыўнай бяспецы, зараз — НАТО, а як жа быць з прынцыпам нейтральнасці і неўступлення ні ў якія ваенныя блокі?" (Дарэчы, сталыя ўдзельнікі Паўночна-атлантычнага блоку не вельмі спяшаюцца крыху пацясніцца, каб даць месца ў сваіх радах былым удзельнікам сацыялістычнага лагера. Замест паўнацэннага членства ў НАТО "блочнікі" прапанавалі "лагернікам" праграму "Партнёрства за мір" — кампраміс, які ўсходнееўрапейскія краіны палічылі новай рэзервацыяй).

Беларусь павінна шукаць падтрымку ў Еўропе, сказаў З.Пазьняк. Аднак апазіцыя збіраецца выкарыстаць шанц, звязаны з нядоўгім знаходжаннем амерыканскага прэзідэнта на беларускай зямлі. Клінтан пабудзе ў Курапатах, сустрэнецца з апазіцыяй і, магчыма, асабіста з ейным лідэрам. Прычым, ініцыятыва наконт апошняга, паводле слоў апазіцыі, зыходзіць з амерыканскага боку.

Акрамя вышэйназваных праблем, апазіцыя закранула на прэс-канферэнцыі пытанне аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расіі, якое, на думку БНФ, мае цалкам палітычны характар, адкаменціравала палітыку ўрада, як здрадніцкую, і параўнала сітуацыю на Беларусі з перыядам разбору Рэчы Паспалітай у XVIII ст. На заканчэнне З. Пазьняк выказаў упэўненасць, што 1994 год стане апошнім годам наменклатуры. Пажывём — пабачым.

### ДОБРЫЯ НАВІНЫ

## "МЗХ" — "Зроблена ў Беларусі"

***Здаецца, беларусы ўжо да ўсяго прывыклі, уваходзячы ў гэты славуты рынак. Нават не ведаючы замежных моў, мы свабодна чытаем на этыкетках тавараў "Made in Japan", "Made in Italy", "Made in Germany", "Сделано в СССР", навучыліся нават англамоўныя інструкцыі да складанай бытавой апаратуры адольваць без перакладчыка. А ці будзе ўсё гэта на беларускай мове?***

Бадай, так. "Made in Belarus" ужо не здзіўляе тых, хто набываў тэлевізары "Віцязь", халадзільнікі "Мінск", брэсцкія трыкатажныя кашулі. Але Мінскі завод халадзільнікаў вырашыў сягнуць яшчэ далей. На прадпрыемстве для ўнутранага рынку распрацоўваюцца цалкам беларускамоўныя этыкеткі.

Хацелася б успрымаць як добры сімптом тое, што ганарлівым лэйблам "Зроблена ў Беларусі" першым пачне карыстацца прадпрыемства, якое дзякуючы сваёй адмысловай прадукцыі стала ўладальнікам XX міжнароднага прыза "Залаты трафей якасці".

Неблагім крокам усталявання самапавагі (дзякаваць Богу, ёсць за што) на МЗХ стане выпуск беларускамоўных кніжак-пашпартоў на прадукцыю, зробленую для ўнутранага рынку.

Хацелася б, каб неўзабаве гэтым шляхам пайшла ўся рэспубліка, каб, як у песні Зм.Бартосіка, за гонар лічылі напісаць па-беларуску свой лэйбл і іншыя фірмы з сусветнай славай. Уявіце сабе: "Відэаплэер "Соні". Зроблена ў Японіі. Інструкцыя па карыстанню..."

Вітаўт МАРТЫНЕНКА, ЧЗ-інфарм.

## Мова здароўя

***У Мінскім мединстытуце па ініцыятыве студэнтаў створана першая беларускамоўная група***

— Як ні дзіўна, сёння мы карыстаемся падручнікамі, надрукаванымі на расейскай і...нямецкай мовах, — гаворыць трэцякурснік Алег Стасевіч, якому і належыць ідэя стварэння групы. — І гэта — пэўныя цяжкасці як для нас, так і для нашых выкладчыкаў. Аднак мы спрабуем знайсці выйсце са становішча. Сумесна з зацікаўленымі студэнтамі з хімічнага аддзялення БДУ, а таксама Сержуком Варыёцкім — пяцікурснікам нашага інстытута — я прымаў удзел у складанні і выданні руска-беларускага хімічнага слоўніка (1 000 слоў) і фізіялагічнага (3 000 слоў). На чарзе — падрыхтоўка фармакалагічнага слоўніка.

**— Праз 4-5 гадоў вы атрымаеце дыплом урача. На якой мове вы будзеце размаўляць з пацыентамі, выключна на беларускай?**

— На той мове, якую разумее хворы.

**— А ці плануецца нейкае заахвочванне вашай групы?**

— Мы атрымліваем "двайную стыпендыю". Адна — звычайная. Другую, дадатковую, нам у парадку дабрачыннай дапамогі штомесяц пералічвае фірма "Дайнова", якая з'яўляецца нашым спонсарам. Але ж я хачу падкрэсліць, што мы выбралі беларускую мову не дзеля матэрыяльных прывілей. Калі стваралася наша група, пра дадатковую стыпендыю ніхто нават не падазраваў.

Алена КЛІМЕНКА, ЧЗ-інфарм.

### Дзевятае неба




**«Еўраньюс».** У Маскве ля расійскага Белага дома адбыўся мітынг нацыянал-патрыятычных партый. Прысутныя выступілі з патрабаваннем аднавіць дзейнасць расійскага парламента. Цікава, што сярод удзельнікаў мітынгу былі і тыя, хто ў кастрычніку мінулага года падтрымаў Ельцына і яго ўрад.

***

У Германіі адбылася дэманстрацыя пад чырвонымі сцягамі, прысвечаная памяці нямецкіх рэвалюцыянераў Карла Лібкнехта і Розы Люксембург, якія былі забіты 75 год таму, у 1919 годзе. Акрамя нямецкіх камуністаў, у дэманстрацыі прынялі ўдзел прадстаўнікі іншых сацыялістычных партый.

***

Польскі прэзідэнт Лех Валенса правёў некалькі дзён у Бруселі, дзе даў інтэрв'ю французскаму тэлебачанню. У гутарцы з тэлежурналістамі ён расказаў пра плануемы вайсковы саюз Польшчы з бліжэйшымі суседзямі — Венгрыяй і Славакіяй, а таксама асудзіў рэгіянальныя рэформы ў Расіі, якія прывялі да міжнацыянальных канфліктаў.

